I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Лістапад-2 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Піяршчык «Крумкачоў»: Гэта не галоўная мэта, але будзем прасоўваць беларускую мову ў «вышцы»




стар. 2

Палявалі міліцыянты, а сядуць толькі егеры – вынесены прысуд за браканьерства ў Чарнобыльскай зоне

стар. 3

Былы «пажарнік» прыгавораны да дзевяці гадоў пазбаўлення волі

стар. 4

Аматарскія «Крумкачы» ўпершыню ў гісторыі заваявалі пуцёўку ў вышэйшую лігу чэмпіянату Беларусі

стар. 6

# Піяршчык «Крумкачоў»: Гэта не галоўная мэта, але будзем прасоўваць беларускую мову ў «вышцы»

***Дыктар хатняга стадыёну «Крумкачоў» збіраецца за зіму падвучыць беларускую мову. Па-беларуску будуць напісаныя і прозвішчы гульцоў на саколках.***

«Крумкачы», якіх спачатку сезону 1-й лігі футбольнага першынства ніхто сур'ёзна не ўспрымаў, прабіліся ў вышэйшую лігу. Ці будзе каманда з беларускамоўнай назвай прасоўваць родную мову ў элітным дывізіёне?

«Мы будзем прасоўваць беларускую мову, але не ставім гэтай асноўнай мэтай. Мы будзем пісаць прозвішчы на саколках па-беларуску. Для мяне гэта ўвогуле не пытанне. Мы жывем у Беларусі, навошта абмяркоўваць прозвішчы на саколках па-беларуску?» – тлумачыць піяршчык клубу Аляксей Важнік.




Ён кажа, што «Крумкачы» – «нармальныя беларусы, якія паважаюць родную мову, родную гісторыю, і гэта нармальна. Але карыстацца беларускай мовай выключна дзеля піяру менскі клуб не збіраецца».

«Проста будзем гэта рабіць, каб гэта выглядала натуральна», – працягвае Аляксей Важнік.

Натуральным ужыванне роднай мовы лічыць і беларускамоўны прэс-аташэ «вышэйлігаўскага» жодзінскага «Тарпеда-БелАЗ» Сяргей Пузанкевіч. Суразмоўца Belsat.eu прызнае заслугі «Крумкачоў», называючы іх «сацыяльным выклікам, які даказаў, што не толькі грошы вырашаюць, а яшчэ і калектыў».

«Мне вельмі падабаецца, што яны выкарыстоўваюць беларускую мову. Гэта, безумоўна, дае камандзе каларыту. Хочацца спадзявацца, што яны няглядзячы на вялікія праблемы, якія ў іх узнікнуць падчас ліцэнзавання, ліцэнзію ўсё ж атрымаюць. І дададуць нам беларускага каларыту ў вышэйшай лізе. Хочацца, атрымаць яшчэ адну цікавую каманду, якая дадасць медыйнасці беларускаму футболу, і менавіта беларускасці», – адзначае Сяргей Пузанкевіч.

Самы антыбеларускамоўны клуб

Ініцыятар кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак складае рэйтынг «Самы беларускамоўны спартовы клуб Беларусі». Хутка з'явіцца спіс са 100 клубаў, у прамежкавым спісе з 40 клубаў «Крумкачы» займаюць другі радок. Вельмі добра, што выхад у вышэйшую лігу менскага клубу стаў магчымым пасля перамогі над магілёўскім «Дняпром», мяркуе Ігар Случак:

«Дняпро» – клуб, які прынцыпова выкарыстоўвае толькі расейскую мову. Самы, так сказаць, антыбеларускамоўны клуб не толькі першай ці якой лігі, наагул – усіх чэмпіянатаў. Адміністрацыя клубу высылала мне адказы, што яны прынцыпова з 1992 года выкарыстоўваюць расейскую мову», – заўважае Ігар Случак.

Адзначае пры гэтым, што ў «Дняпра» «вельмі добрыя фанаты і заўзятары, якія мову любяць, шануюць і выкарыстоўваюць на стадыёнах».

Што тычацца «Крумкачоў», то яны прыцягваюць увагу заўзятараў, якія па прыкладзе менскага клубу і самыя будуць цягнуцца да беларускай мовы, кажа Ігар Случак.

Паводле яго, гэты год можна лічыць прарыўным у плане выкарыстоўвання беларускай мовы клубамі вышэйшай лігі. Калі летась ніводная каманда не пісала прозвішчы гульцоў на саколках па-беларуску, то сёлета ўжо 4-5 камандаў пачалі гэта рабіць.

*Зміцер Кустоўскі*

# Палявалі міліцыянты, а сядуць толькі егеры – вынесены прысуд за браканьерства ў Чарнобыльскай зоне

***Чыноўнікі атрымалі праблемы на працы. Арганізатары палявання – турэмныя тэрміны.***

Браканьераў затрымалі супрацоўнікі КДБ 7 снежня мінулага года. «Паляўнічыя» перасоўваліся па зоне адсялення Веткаўскага раёна на УАЗіку з нумарам «Сярога». Машына належала Сяргею Гатальскаму, намесніку начальніка Гомельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Пры затрыманні супрацоўнікі КДБ выкарыстоўвалі табельную зброю, адзін з браканьераў нават атрымаў лёгкае раненне.




У машыне знайшлі часткі забітага ласяі прыстасаванні для раздзелкі тушы жывёлы. Таксама ў лесе знайшлі месцы, дзе браканьеры забілі яшчэ чатырох ласёў. А ў хаце аднаго з браканьераў знайшлі паляўнічую зброю і патроны. Паведамлялася, што шкода, нанесеная навакольнаму асяроддзю, ацэньвалася ў паўмільярда беларускіх рублёў.

Дзяржаўную пасаду займаў не толькі ўладар машыны. У ходзе следства абвінавачванні былі прад'яўленыя 19 фігурантам гэтай справы, у тым ліку тром супрацоўнікам інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, пяці супрацоўнікам УУС Гомельскага аблвыканкама (ў тым ліку начальнік раённай ДАІ) і службовай асобе з «Веткаўскага спецлесгаса». Але ж у дачыненні амаль да ўсіх крымінальны пераслед быў спынены ў сувязі з прымяненнем закона аб амністыі. Усе абвінавачаныя выплацілі шкоду, але на лаве падсудных засталіся толькі двое, бацька і сын. Бацька — егер з Таварыства паляўнічых і рыбаловаў, сын — намеснік начальніка міжраённай Гомельскай інспекцыі прыродаахоы. Па сведчанні жыхароў вёскі Свяцілавічы, бацька арганізаваў у зоне цэлы бізнес па здабычы дзічыны.

Бацька і сын на лаве падсудных.

Паводле інфармацыі БелаПАН, 12 снежні калегія Дзяржаўнай інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету прыняла рашэнне аб звальненні намесніка начальніка Гомельскай абласной інспекцыі, паніжэнні на пасадзе начальніка Гомельскай міжраённай інспекцыі, а таксама прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці начальніка Карманскай міжраённай інспекцыі, на тэрыторыі якой было здзейснена правапарушэнне, і начальніка апаратыўна-аналітычнага аддзела Гомельскай абласной інспекцыі.

Справа цягнулася амаль год. І вось прысуды вынесеныя: бацьку далі 5,5 года пазбаўлення волі, а сыну — 6,5 гадоў калоніі, па годзе скінулі па амністыі. Абодва пакараныя за арганізацыю незаконнай палявання і незаконнае захоўванне боепрыпасаў, акрамя таго, сын абвінавачваецца ў злосным хуліганстве.

*nn.by*

# Былы «пажарнік» прыгавораны да дзевяці гадоў пазбаўлення волі

***Суд Гомельскага раёна 16 лістапада абвясціў прыгавор у дачыненні да мясцовага жыхара 1972 года нараджэння, паводле звестак Следчага камітэта, які раней уваходзіў у крымінальную групоўку «Пажарнікі».***

Па шэрагу артыкулаў Крымінальнага кодэкса (295, 208, 218, 339) 43-гадовы мужчына прыгавораны па сукупнасці да дзевяці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму і з канфіскацыяй маёмасці. Ён прызнаны вінаватым у вымаганні з прымяненнем насілля, незаконным набыцці, захоўванні і перавозцы агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых прыстасаванняў, наўмысным пашкоджанні маёмасці, асабліва злосным хуліганстве. Прыгавор не набыў законную моц і можа быць абскарджаны або апратэставаны.




Паводле звестак папярэдняга расследавання, у верасні 2014 года на тэрыторыі дачы садаводчага таварыства «Іпуць-5» прагрымеў выбух. Былі пашкоджаныя фасад дома, гараж, альтанка і аўтамабіль «Мерседэс», што належаў гаспадару дачы. Была распачатая справа на падставе ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства).

Следства ўстанавіла, што выбух на дачы, а за тры тыдні да гэтага інцыдэнту стральба па агароджы гэтага ж дома з абрэзу паляўнічай стрэльбы «ІЖ-12», былі ўчыненыя жыхаром Гомельскага раёна. У якасці выбуховага прыстасавання была выкарыстана ручная граната «РГД-5». Выбух і абстрэл дачы былога кампаньёна абвінавачваны ўчыніў з хуліганскіх меркаванняў.

Расследаванне выявіла і іншыя крымінальна каральныя дзеянні жыхара Гомельскага раёна. У верасні 2013 года абвінавачваны, пагражаючы нажом, патрабаваў у іншага свайго знаёмага 8 тыс. долараў. Мужчыну давялося тады развітацца са сваім аўтамабілем «Мерседэс Бенц С220 CDI».

Падазроны набываў і захоўваў пісталетныя боепрыпасы, пісталет-кулямёт «Аграм-2000» з глушыцелем. Гэты арсенал быў канфіскаваны па месцы пражывання злачынцы. Пазней мужчына добраахвотна выдаў следству абрэзы стрэльбы «ІЖ-12» і вінтоўкі «Маўзер».

Пісталет-кулямёт «Аграм-2000», агнястрэльная зброя і боепрыпасы будуць знішчаныя па рашэнні суда Гомельскага раёна.

«Пажарнікі» — самае буйное ў сучаснай гісторыі Гомеля крымінальнае фарміраванне, якое ў сярэдзіне 1990-х налічвала да 100 членаў ва ўзросце ад 20 да 25 гадоў. На працягу дзесяці гадоў члены групоўкі займаліся рэкетам прадпрымальнікаў, кантралявалі прастытутак, валютчыкаў, таксістаў. На іх рахунку каля ста цяжкіх злачынстваў, у тым ліку згвалтаванні, рабаванні, махлярства, падпал.

Суды над «пажарнікамі» праходзілі ў Гомелі ў 2004—2010 гадах. У 2010 годзе да 17 і 19 гадоў пазбаўлення волі былі прыгавораныя лідары груповак, якіх затрымалі ў Маскве. Яшчэ каля паўсотні чалавек атрымалі тэрміны ад 3 да 16 гадоў.

Маштабная крымінальная дзейнасць «пажарнікаў» стала магчымай пры бяздзеянні кіраўнікоў праваахоўных органаў Гомельскай вобласці. Некаторыя супрацоўнікі пракуратуры і УУС знаходзіліся на забеспячэнні ў бандытаў. Начальнік крымінальнага вышуку быў прыгавораны да 18 гадоў пазбаўлення волі, некалькі аператыўнікаў — да меншых тэрмінаў.

*БелаПАН*

# Былы загадчык аддзялення гомельскай псіхбальніцы атрымаў тры гады за хабар

***Суд Навабеліцкага раёна Гомеля 16 лістапада вынес прысуд былому загадчыку дыспансернага аддзялення Гомельскай абласной клінічнай псіхіятрычнай бальніцы. Па сукупнасці артыкулаў за атрыманне хабару і службовую падробку доктар пакараны чатырма гадамі пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, але па амністыі тэрмін пакарання скарочаны на адзін год.***

Доктар быў затрыманы ў сваім працоўным кабінеце пасля атрымання хабару ў памеры 200 долараў. Незаконная ўзнагарода прызначалася за афармленне фіктыўнага медыцынскага заключэння аб адсутнасці супрацьпаказанняў да кіравання аўтатранспартам і выдачу адпаведнага дакумента. Усяго было зафіксавана 12 эпізодаў супрацьпраўнай дзейнасці медыка.

«Хабары давалі не толькі грашыма, але і садавінай, цукеркамі, мясам. Самы буйны хабар — 200 долараў, іншыя хабары складалі 500-700 тыс. рублёў. Усе незаконныя просьбы пацыентаў датычыліся допуску да кіравання. Пазней двое грамадзян, якія давалі хабар, паўторна прайшлі камісію, і стала вядома, што яны не маюць права па стане псіхічнага здароўя кіраваць транспартам. У праваахоўныя органы паступіла ананімнае паведамленне, што доктар бярэ хабар, таму праводзілася аператыўная праца. На аўдыя і відэа зафіксавана, як загадчык аддзялення намякаў на даванне хабару, каб спрыяльна вырашыць пытанне», — пракаментаваў БелаПАН памочнік пракурора Гомеля Вячаслаў Балоцін, які падтрымліваў абвінавачанне ў судзе.

Падчас следства на глебе апошніх падзей у доктара адбыўся нервовы зрыў, але экспертыза прызнала яго ў стане свядомасці. На судзе загадчык аддзялення поўнасцю прызнаў сваю віну. Прысуд пакуль не набыў законную моц.

*БелаПАН*

# Пад Жлобінам адначасова сутыкнуліся дзесяць аўтамабіляў

***17 лістапада ў Жлобінскім раёне на адным з участкаў аўтадарогі адначасова адбылося два дарожна-транспартных здарэнні.***

Як паведамілі ва УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, 17 лістапада прыкладна ў 8.00 кіроўца аўтамабіля «Мэрсэдэс» на мосце праз раку Днепр не справіўся з кіраваннем з-за слізкай дарогі і наехаў на агароджу моста. Яшчэ чатыры легкавыя аўтамабілі, якія рухаліся ззаду ў тым жа кірунку, ужылі экстраннае тармажэнне, але з-за слізкай дарогі не змаглі пазбегнуць сутыкнення адзін з адным.

Пасажыр аднаго з аўтамабіляў узяў знак аварыйнага прыпынку і пабег назад, каб спыніць транспартны паток.

Прыкладна ў 150 метрах ад месца здарэння, пабачыўшы чалавека, які бег са знакам аварыйнага прыпынку, кіроўца легкавога аўтамабіля з паўпрычэпам затармазіў. Грузавы аўтамабіль «МАЗ», што рухаўся за ім, таксама экстранна затармазіў, ад чаго яго развярнула і ён сутыкнуўся з прычэпам, а затым наехаў на агароджу моста.

У выніку сутыкнення прычэп адарваўся ад легкавога аўтамабіля. Яшчэ тры легкавыя аўтамабілі ў спробе аб'ехаць месца ДТЗ прымянілі экстраннае тармажэнне, але на слізкай дарозе сутыкнуліся адзін з адным. Людзі ў ДТЗ не пацярпелі.

Супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі складзены пратакол у дачыненні да службовай асобы ДЭУ № 47 УП «Гомельаўтадар» за парушэнне правілаў утрымання дарог. Службовая асоба будзе прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

*БелаПАН*



ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# Аматарскія «Крумкачы» ўпершыню ў гісторыі заваявалі пуцёўку ў вышэйшую лігу чэмпіянату Беларусі

***Шклозавод «Ялізава» накіраваў у магілёўскі дзяржсуд заяву аб банкруцтве прадпрыемства. Дадзеную інфармацыю TUT.BY пацвердзілі на самім прадпрыемстве.***

Гаворка ідзе аб санацыі прадпрыемства, а не аб банкруцтве ў прамым сэнсе гэтага слова, падкрэслілі на заводзе. «Фінансавая сітуацыя не вельмі добрая, таму [заводу] неабходны перыяд санацыі (перыяд адтэрміноўкі выплат крэдыторам. — TUT.BY)», — адзначылі там. Усім крэдыторам накіравалі адпаведныя лісты. Ад іншых каментароў на «Ялізава» адмовіліся.



З пачатку 2000-х гадоў 65% акцый шклозавода «Ялізава» належыць ATEC Holding — гэта зарэгістраваная ў Аўстрыі кампанія, адным з асноўных уладальнікаў якой называюць вядомага беларускага бізнэсмена Аляксандра Мураўёва. 35% акцый належыць дзяржаве.

Агенцтва ПРАЙМ-ТАСС са спасылкай на свае крыніцы паведамляе, што ў цяперашні час на прадпрыемстве працуе адна з трох шклаварачных печаў, і гэта адбіваецца на аб'ёмах выпуску прадукцыі. Вытворчасць шкляных слоікаў у студзені-верасні завод скараціласа на 52,4%, да 78,7 мільёна штук, шкляных бутэлек — на 31,2%, да 28,1 мільёна штук. Адгрузка слоікаў на ўнутраны і знешні рынкі знізілася ў студзені-верасні 2015 на 44,2%, да 88,8 мільёна штук, бутэлек — на 6,7%, да 36 мільёна штук.

Доля экспарту ў структуры адгрузак ў студзені-верасні 2015 складала 28% і знізілася на 11,7 працэнтнага пункта ў параўнанні з узроўнем студзеня-верасня 2014 года. У грашовым выражэнні адгрузкі на экспарт склалі 3,4 млн даляраў (мінус 58,9%). «У апошнія месяцы мы крыху павялічылі экспарт у параўнанні з пачаткам года, але ў параўнанні з мінулым годам ён істотна знізіўся», — удакладніў суразмоўца агенцтва.

У пачатку лета з'явілася інфармацыя аб затрыманні Аляксандра Мураўёва, яго братоў, а таксама першых асоб ATEC Holding і мінскага мотавелазавода.




14 мая ў друкаваным органе Адміністрацыі прэзідэнта газеце «СБ. Беларусь сегодня» выйшаў артыкул пра тое, што на шклозаводзе не працуе два цэхі з трох. Праз пазыкі (у прыватнасці, за газ — 8 млн даляраў) збіраліся спыніць і апошні цэх, але тады з цэхам можна было б «зачыняць» і пасёлак Ялізава, дзе шклозавод з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам. Мураўёў наракаў на высокі кошт на газ для завода ў параўнанні з расійскімі канкурэнтамі і прапаноўваў увесці часовыя забаронныя меры на ўвоз шклатары з Расіі.

Раней праходзіла інфармацыя аб банкруцтве двух іншых шкляных актываў Мураўёва — лідскай «Белеўратары» і «Гомельскага шклатарнага завода».

*tut.by*

# "Нёман" абыграў "Гомель" і выйшаў на чыстае трэцяе месца

***Пасля міжнароднай паўзы аднавіўся чэмпіянат Беларусі па хакеі.***

У доўгачаканым матчы, які праходзіў у Гомелі, гарадзенская каманда атрымала мінімальную перамогу над мясцовай камандай. Тры ачкі заробленыя на выездзе дазволілі "Нёману" выйсці на чыстае трэцяе месца ў турнірнай табліцы. Як абяцаў Мілаш Голань, каманда пасля міжнароднага перапынку будзе старацца гуляць у іншы хакей. Тым больш "Нёман" узмацніў вядомы легіянер Яраслаў Крыстэк. Таксама раней стала вядома, што ў Гродне застаецца і чэх Даніэль Сэман. З такім баявым настроем чырвона-чорныя абавязаны былі абыграваць прынцыповага суперніка. Хоць "Гомель" і перакідаў гарадзенцаў у два разы, перамога дасталася менавіта прыезджай камандзе. У другім перыядзе адзіную шайбу ў матчы закінуў Павел Баярчук. "Гомель" - "Нёман" - 0:1 (0:0, 0:1, 0:0) 0:1 - Павел Баярчук (большасць) (Канстанцін Касянчук, Андрэй Коршунаў) 29:56 Дзякуючы перамозе над "Гомелем", "Нёман" упэўнена размясціўся на трэцім месцы ў турнірнай табліцы. Чырвона-чорныя зараз маюць у сваім актыве 42 ачкі. Праз два дні "Нёман" згуляе сур'ёзны матч у Жлобіне. Гульня супраць "Металурга" пройдзе ў суботу 14 лістапада.

*Руслан Кулевіч © Твой стыль*

# У дачыненні да футбольнага фаната з Калінкавічаў распачатая крымінальная справа

***Каляфутбольная разборка фанатаў у Жыткавічах закончылася крымінальнай справай. Як паведамляе МУС Беларусі, злачынства раскрылі супрацоўнікі ГУБАЗіК МУС па Гомельскай вобласці, якія падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў і маніторынгу сацсетак выйшлі на след падазронага ўжо пасля інцыдэнту.***

Устаноўлена, што яшчэ з верасня гэтага года 17-гадовы жыхар Калінкавічаў прыехаў у Жыткавічы з таварышамі падтрымаць ФК "Вертыкаль", які сустракаўся з мясцовым "ЮА-Буд-Жыткавічы". Пасля гульні гомельскія ўльтрас уступілі ў канфлікт з апанентамі. Тыя разбегліся, пакінуўшы аднаго з прыяцеляў у атачэнні "вертыкальшчыкаў". Падазроны запатрабаваў у хлопца адмовіцца ад ідэі антыфашызму, прыхільнікам якой той з'яўляўся, і нанёс пры гэтым два ўдары рукой і нагой у галаву.




Насілле суправаджалася відэаздымкай, якая затым была размешчана ў сацыяльнай сетцы на старонцы аднаго з удзельнікаў канфлікту.

Паводле звестак ГУБАЗіК МУС, непаўналетні затрыманы з'яўляецца прыхільнікам ідэй фашызму. Зараз у дачыненні да яго распачатая справа на падставе ч. 1 арт. 339 КК (хуліганства). Затрыманы ўзяты пад варту, яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 3 гадоў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Піражкі з капустай

***Тварогавае цеста для піражкоў падыходзіць для розных начынак, але з капустай самы смачны варыянт.***

твараг — 300-350 г
яйка — 1
цукар — 2 ст. л.
соль — 1/4 ч. л.
мука — 2 шклянкі

капуста — 400 г
цыбуля — 2
зеляніна

1) Капусту нашаткаваць і абсмажыць да гатовасці з дробна нарэзанай цыбулінай, пасаліць, дадаць зеляніну.

2) У місцы ці ёмістасці змяшаць яйка, твараг, цукар і соль. Паступова ўвесці муку і замясіць цеста, якое не будзе ліпнуць да рук.

3) Зручна зрабіць даўгія каўбаскі, нарэзаць на роўныя кавалачкі і раскатваць у кольцы. У сярэдзіну выкласці начынку і змацаваць бакі. Калі не атрымоўваецца, трэба ўзяць трошкі вады і мукі.

4) Гатовыя піражкі смажыць з двух бакоў на алеі да залацістага колеру.

Смачна есці!

*kli4nik.info*






- Давай павячэраем, толькі ты і я.
- А хто будзе гатаваць?
- Толькі ты і ўсё.

M&S MEDIA
Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Лістапад-2 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2015”

Надрукавана на папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA